# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА "Рух "За Свабоду". Выпуск № 2 сакавік 2012




# Неўязныя і невыязныя

***"Рэжым ударыў не па Еўрасаюзе, а па сабе і па беларусах, ён заганяе краіну ў яшчэ большую самаізаляцыю ад цывілізаванага свету"*, – такім чынам лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч пракаментаваў дыпламатычны скандал паміж беларускімі ўладамі і Еўрасаюзам. Разам з тым, на ягоную думку, Захад павінен шукаць новыя падыходы да вырашэння "беларускага пытання".**




PHOTO.BYMEDIA.NET

*"Пазіцыя аб'яднанай Еўропы абсалютна слушная: яна не хоча бачыць у сябе дома тых, хто садзіць у турмы іншадумцаў. Гэта яе права, каго запрашаць у госці. "Не, мы ўсё роўна хочам на ваша вяселле!", – кажуць прыўладныя парушальнікі Канстытуцыі і забіраюць у беларусаў і іхніх дзяцей права на прыстойную будучыню"*, – сказаў Мілінкевіч пра рэакцыю беларускіх уладаў на пашырэнне спісу неўязных беларускіх чыноўнікаў, у прыватнасці пра пажаданне, каб кіраўнік Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі і пасол Польшчы пакінулі нашу краіну. У сваю чаргу краіны Еўрасаюза прынялі рашэнне пра адкліканне з Мінска сваіх паслоў.

На думку Мілінкевіча, паміж Беластокам і Гродна цяпер – амаль Берлінскі мур: "*Еўразвяз пасля так званых выбараў прэзідэнта 19 снежня 2010 года практычна не мае інструментаў уплыву на паводзіны і ўнутраную палітыку ўладаў Беларусі*".

Лідар Руху "За Свабоду" кажа, што, *"калі б такі самы мур быў паміж Оршай і Смаленскам, то еўразвязаўскія санкцыі, можа, дзейнічалі б эфектыўна, давалі б шанец на дэмакратызацыю Беларусі. Але паколькі ёсць такі абаронца, як Расія, то шчыра скажам: гэтыя санкцыі не прыводзяць да вызвалення палітвязняў і дэмакратызацыі"*.

Аляксандр Мілінкевіч зазначае, што, бясспрэчна, санкцыі ЕС маральныя, але ў палітыцы гэтага недастаткова: *"Акрамя маральнай пазіцыі мусіць быць эфектыўнасць. Ставім мэту і ацэньваем дзеянні па выніковасці. А яна, па вялікаму рахунку, адмоўная: немадэрнізаваная Беларусь са сваёй дыктатурай плыве ў пастку інкарпарацыі з боку ўсходняга суседа. Масква выйграе"*.

*"Толькі канкрэтызаваная еўрапейская перспектыва, паслядоўная праца па нацыянальным адраджэнні і еўрапеізацыі Беларусі, знішчэнне бар'ераў на Захадзе, еўрапейскай дапамога ў мадэрнізацыі эканомікі і палітыкі пакідаюць шанец на захаванне беларускай дзяржавы і развіццё беларускай нацыі"*, – лічыць лідар Руху "За Свабоду".

Нагадаем, 28 лютага афіцыйны Мінск прапанаваў кіраўніку Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі і паслу Польшчы *"выехаць у свае сталіцы для кансультацый, каб давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку аб непрымальнасці націску і санкцый"*. Пра гэта заявіў прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных у адказ на прынятае напярэдадні рашэнне Савета ЕС папоўніць спіс неўязных беларускіх чыноўнікаў.

**Працяг на с. 4**

# Чым пачастуе "Еўрапейская кухня"?

**Пабачыла свет першае беларускае кулінарна-палітычнае шоў. Аўтар ідэі і вядучая – блогер "Рэха Масквы" і маладая гаспадыня Арына Лісецкая.**

Яна гасцінна запрашае да сябе на пасядушкі беларускіх медыяперсон, палітыкаў, дыпламатаў, проста цікавых людзей, якім ёсць што распавесці шырокай аўдыторыі за кубачкам кавы, гарбаты ці келіхам больш моцных напояў.

У першым выпуску "Еўрапейскай кухні" лідар гурта "Рэха" **Андрэй Такінданг** намагаецца даць адказы на шэраг няпростых пытанняў: У якіх ганебных рэстаўрацыях удзельнічаў Андрусь Такінданг? Што трэба зрабіць мастаку, каб патрапіць у грантавы фонд прэзідэнта? Што п'юць і ядуць у Чадзе на Масленіцу? Якія галерэі выстаўляюць смелыя працы, а якія працуюць з пункту гледжання "правільнай ідэалогіі"? Што думае Андрусь Такінданг пра чыноўнікаў з Міністэрства культуры і пра Ланскую як пра жанчыну?

У бліжэйшых выпусках Арына Лісецкая прыгатуе "Брусельскі пудынг на мільён" з кіраўніком "Офіса за дэмакратычную Беларусь" **Вольгай Стужынскай**, а таксама "Кексы на долар" з былым кіраўніком Беларусі, палітыкам **Станіславам Шушкевічам**. У планах таксама вечарына з драматургам **Андрэем Курэйчыкам**.

Кулінарна-палітычнае шоў будзе ладзіцца тры разы на месяц. У першым сезоне запланавана зрабіць дзевяць выпускаў праграмы. Шоў выпускаецца ў межах праекта "Еўрапейскі клуб" Руху "За Свабоду".



# Магніты свабоды

**Прыхільнікі Руху "За Свабоду" выпусцілі чарговую партыю магнітаў з выявамі нацыянальных сімвалаў – бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня".**

Беларусы вешаюць гэтыя магніты на аўтамабілі, а ў каго іх няма – проста на хатнія лядоўні.

Рух "За Свабоду" бліжэй да Дня волі (25 сакавіка) будзе ладзіць у Мінску і ў рэгіёнах краіны сустрэчы з аўтамабілістамі, падчас якіх будзе прэзентаваць ім патрыятычную аздобу для іхніх "ластавак". У сустрэчах возьме удзел лідар Руху Аляксандр Мілінкевіч.

Таксама пра магніты пытайцеся ў офісах Руху "За Свабоду" (пр-т Незалежнасці, 80-73; тэлефон – 280-88-63), Партыі БНФ (Чарнышэўскага, 3; 284-50-12) і ТБМ (Румянцава, 13; 284-85-11).

# З дэпутатаў робяць ідэолагаў

**Так намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч пракаментаваў перадвыбарчыя ўстаноўкі Аляксандра Лукашэнкі, якія той даў падчас сустрэчы з Уладзімірам Андрэйчанкам, старшынём Палаты прадстаўнікоў.**

Заявы кіраўніка краіны сведчаць пра перадвызначанасць таго, хто трапіць у парламент, а хто не, адзначае **Юрась Губарэвіч**.

*"Шмат хто з прызначаных дэпутатаў малавядомы нават у сваіх выбарчых акругах, людзі часта і прозвішчаў іхніх не памятаюць. Ва ўмовах сумленнай барацьбы на выбарах яны*



*б не атрымалі падтрымкі насельніцтва"*, – кажа Губарэвіч.

Ён звяртае ўвагу на тое, што ўлады збіраюцца выкарыстаць "выбары-2012" у прапагандысцкіх мэтах: *"Улады няздольныя даць рады наступствам эканамічнага крызісу, які моцна ўдарыў па рэйтынгавых пазіцыях Лукашэнкі. І вось ужо на ідэалагічную перадавую, як на адпрацоўку, кідаюць дэпутатаў - даводзіць "пункт гледжання прэздэнта", то бок "лінію партыі"*.

Лукашэнка папрасіў старшыню ніжняй палаты парламента дапамагчы на выбарах Цэнтрвыбаркаму: *"Усё ж такі дэпутаты – гэта прадстаўнікі нашых выбаршчыкаў, і наўрад ці хто-небудзь прэтэнзіі прад'явіць, калі яны дапамогуць па-чалавечы, дэмакратычна арганізаваць працэс выбараў"*.

А яшчэ *"трэба з Адміністрацыяй, урадам прапрацаваць хворыя актуальныя пытанні, з якімі дэпутаты пойдуць да людзей, каб яны пункт гледжання прэзідэнта змаглі данесці. Мы павінны атрымаць зваротную сувязь па комплексе пытанняў, якія мы вырашым і павінны вырашаць напярэдадні парламенцкіх выбараў"*.

# Беларускае неба – у Расіі

**“Прасіць грошы на фінансаванне арміі – абраза беларускім вайскоўцам”, – так Аляксандр Мілінкевіч пракаментаваў зварот Аляксандра Лукашэнкі да Крамля з прапановай узяць удзел у грашовым забеспячэнні нашых вайскоўцаў.**

По словах лідара Руху “За Свабоду”, “*жабрацтва арміі – вынік палітыкі аднабаковага арыентавання на Расію*”.

“*Калі грашовым забеспячэннем беларускай арміі будзе займацца Крэмль, Пуцін пасля 4 сакавіка, то гэта яшчэ больш небяспечна, чымсьці пераход нашай краіны на расійскі рубель*”, – лічыць **Аляксандр Мілінкевіч**.

“*Людзі ў пагонах павінны добра зарабляць, каб бараніць сваю краіну і свой народ. Але калі армію незалежнай дзяржавы будзе ўтрымліваць іншая краіна – гэта бомба запаволенага дзеяння пад гэтай самай незалежнасцю і нацыянальнай бяспекай,* – сказаў Мілінкевіч. – *Расійскі заробак – гэта будзе, па сутнасці, рэкрутаванне, вярбоўка нашых хлопцаў на спажывецкім узроўні. Тут недалёка і да служэння ў расійскім войску, каб бараніць чужыя, не нашыя інтарэсы на Каўказе ці ў Сярэдняй Азіі*”.

Нагадаем, на сустрэчы з дзяржсакратаром Савета бяспекі Леанідам Мальцавым і міністрам абароны **Юрыем Жадобіным Аляксандр Лукашэнка** заявіў аб неабходнасці павялічыць грашовае забеспячэнне вайскоўцам.

“*У сувязі з гэтым у нас ёсць дамоўленасць з прэзідэнтам Расіі. Я яму накіраваў ліст аб неабходнасці пошуку для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расіі. І ён паабяцаў дапамагчы ў гэтым плане*”, – паведаміў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, у дзвюх краін практычна агульная армія і задачы, якія стаяць перад ёй, але памер грашовага забеспячэння вайскоўцаў Беларусі і Расіі адрозніваецца, паведамляе прэзідэнцкая прэс-служба. Лукашэнка заявіў, што такое становішча спраў павінна быць зменена. Ён даручыў прапрацаваць пытанне павышэння грашовага забеспячэння не толькі ваеннаслужачых, але і супрацоўнікаў усяго сілавога блока.



Праз нейкі час Жадобіну давялося тлумачыць, як трэба разумець словы Лукашэнкі.

Па словах міністра абароны, СМІ растыражавалі некарэктную інфармацыю: магло скласціся ўражанне, што “*гаворка вялася пра набходнасць пошуку для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў з бюджэту Расіі*”.

А насамрэч, маўляў, падкрэслівалася, што “*паспяховае ваеннае супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі можа стаць адным з аргументаў у атрыманні прэферэнцый у эканамічных пытаннях, напрыклад, датычна мытаў на нафту і газ, якія дазволяць папоўніць бюджэт краіны і даць магчымасць падвысіць грашовае ўтрыманне нашых вайскоўцаў*”.

Апрача гэтага, Жадобін даў ідэалагічную ўстаноўку беларусам у пагонах. Па яго словах, большасць афіцэраў “*правільна разумеюць сітуацыю, якая склалася, і годна выконваюць свае абавязкі*”. Па яго словах, недапушчальнымі ёсць факты амаральнасці, парушэнняў правапарадку, ныцця ў сувязі з эканамічнай сітуацыяй.

Больш за тое: “*Патрэбна бескампрамісная пазіцыя і камандавання, і Афіцэрскіх сходаў – неадкладнае ачышчэнне афіцэрскага корпуса ад ныцікаў і панікёраў*”.

Між тым, заява Лукашэнкі пра падтрымку беларускіх вайскоўцаў Расіяй сведчыць пра паглыбленне ваенна-палітычнага саюзніцтва з ёй. Яшчэ адна ілюстрацыя гэтага – зацверджанне кіраўніком краіны пагаднення аб стварэнні Адзінай рэгіянальнай сістэмы Супарцьпаветранай абароны Беларусі і Расіі. То бок, Лукашэнка аддаў Маскве беларускае неба.

Ваенны аналітык **Аляксандр Алесін** звяртае ўвагу, што само пагадненне было падпісана міністрамі абароны дзвюх краін яшчэ 3 лютага 2009 года. А наогул перадгісторыя вельмі доўгая. Як заявіў у свой час былы камандуючы СПА Беларусі генерал-лейтэнант Валерый Кастэнка, праект міждзяржаўнага пагаднення аб стварэнні Адзінай рэгіянальнай сістэмы СПА быў прадстаўлены яшчэ ўвосень 1999 года!

Чаму Лукашэнка зацвердзіў пагадненне менавіта цяпер?

“*У сакавіку мінулага года паміж Уладзімірам Пуціным і Аляксандрам Лукашэнкам было заключана нейкае пакетнае пагадненне. Яго сутнасць, магчыма, такая: інтэграцыя (ці хаця б дэманстрацыя яе) у абмен на эканамічныя льготы і прэферэнцыі. Цікавасць Пуціна да гэтай угоды мела відавочна перадвыбарчы характар (Расія ўзмацняе ўплыў у зоне сваіх інтарэсаў), Лукашэнку ж элементарна неабходныя сродкі для падтрымання эканамічнай і сацыяльнай стабільнасці ў краіне*”, – піша Алесін на Naviny.by.

# Неўязныя і невыязныя (працяг)

Пачатак на с.1

Краіны ЕС у адказ адклікалі сваіх паслоў з Беларусі для кансультацый.

27 лютага на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін ЕС у Брусселі ў так званы чорны спіс быў уключаны яшчэ 21 беларускі чыноўнік. Гэта прадстаўнікі судовай сістэмы і праваахоўных органаў. Цяпер уезд у Еўрасаюз забаронены больш як 200 беларускім чыноўнікам.

Анансавана, што ў сакавіку Савет міністраў ЕС разгледзіць поўны спіс беларускіх прадпрыемстваў і бізнэсменаў, да якіх могуць быць прыменены санкцыі ЕС.

Паводле звестак брусельскага выдання EUobserver, санкцыі могуць быць уведзены супраць некалькіх беларускіх бізнэсменаў, у прыватнасці ўладальніка групы кампаній "Трайпл" **Юрыя Чыжа**, кіраўніка СП ТАА "Санта-Імпекс Брэст" **Аляксандра Машэнскага**, старшыні савета дырэктараў ААТ "Амкадор" **Аляксандра Шакуціна** і кіраўніка ТАА "Тытунь-Інвест", уладальніка сеткі гіпермаркетаў "Карона" **Паўла Тапузідыса**.

Напачатку сакавіка ў Брусселі прайшла чарговая сустрэча Еўрапейскага Савета, які складаецца з лідараў ці кіраўнікоў урадаў краін ЕС, прэзідэнта Еўрапейскага Савета і прэзідэнта Еўрапейскай Камісіі. Было прынятае такое заключэнне па Беларусі:

*"Еўрапейскі Савет выказаў "сваю сур'езную занепакоенасць, якая паглыбляецца, у сувязі з далейшым пагаршэннем сітуацыі ў Беларусі. Ён вітае рашэнне, прынятае Саветам ЕС, пашырыць спіс асобаў, якія падлягаюць*

> 27 лютага на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін ЕС у Брусселі ў так званы чорны спіс быў уключаны яшчэ 21 беларускі чыноўнік.

*забароне на ўезд і замарожванню актываў за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека ці падаўленне грамадзянскай супольнасці ды дэмакратычнай апазіцыі, за падтрымку рэжыму Лукашэнкі ці атрыманне ад яго перавагаў. Еўрапейскі Савет прапануе Савету ЕС працягваць сваю працу па распрацоўцы далейшых мер. Ён пацвярджае абавязальніцтва Саюза ўзмацняць сваё супрацоўніцтва з беларускай грамадзянскай супольнасцю і падтрымліваць дэмакратычныя памкненні беларускага народа"*.

Між тым, беларускія ўлады пайшлі не толькі на канфлікт з Еўропай, але і пагражаюць узмацненнем рэпрэсій супраць апазіцыі.

Генеральная пракуратура Беларусі ўжо папярэдзіла беларускіх апазіцыянераў, якія заклікалі да санкцый, аб тым, што ім можа быць абмежаваны выезд з краіны.

Як заявіў 1 сакавіка начальнік упраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Генпракуратуры **Павел Радзівонаў**, санкцыі прапаноўваліся *"ў дачыненні да ўсяго народа Рэспублікі Беларусь: дзяцей, пажылых людзей, рабочых і служачых"*.

*"Гэта ўжо не просты папулізм. Гэтыя дзеянні могуць быць кваліфікаваныя з пункту гледжання крымінальнага права, і органы пракуратуры прымаюць меры, каб растлумачыць гэтым грамадзянам магчымыя наступствы. У тым ліку гэта прыцягненне да крымінальнай адказнасці"*, – сказаў ён.

Падставы для распачынання спраў могуць узнікнуць і тады, калі ўрад палічыць, што дзяржаве нанесена шкода эканамічнага, палітычнага або іміджавага характару, і звернецца ў пракуратуру з прапановай даць юрыдычную ацэнку дзеянням пэўных людзей, патлумачыў Радзівонаў.

З'явіліся і чуткі, што ўжо створаны папярэдні спіс невыязных апазіцыянераў, у якім больш за сотню прозвішчаў.

Шэраг палітыкаў сапраўды не выпусцілі за мяжу без тлумачэння прычынаў...






**Буйным праўладным бізнэсменам Юрыю Чыжу, Аляксандру Машэнскаму, Аляксандру Шакуціну і Паўлу Тапузідысу пагражаюць санкцыі Еўрасаюза**

# Візавы ўдар па Лукашэнку

**Максімальным ударам па Лукашэнку магла б быць адмена платы за візы для грамадзянаў Беларусі, мяркуе актывіст Руху “За Свабоду”, палітолаг Рыгор Астапеня ў артыкуле ў “Нашай Ніве”.**

Сённяшні канфлікт у беларуска-еўрапейскіх адносінах мае беспрэцэндэнтны характар. За адкліканнямі амбасадараў досыць прадказальнымі выглядаюць далейшыя візавыя абмежаванні ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў і нават увядзенне пад эмацыйным уплывам эканамічных санкцый, якія яшчэ нядаўна былі немагчымымі.

Учорашняе масавае адкліканне амбасадараў было жэстам, які павінен быў паказаць цвёрдасць пазіцыі Еўрасаюза ў дачыненні да Лукашэнкі. Паказальна, што дадзенае рашэнне еўрапейскія краіны прынялі імгненна. Гэта, кажучы мовай Лукашэнкі, паказала што еўрапейскія лідэры «маюць яйцы». Пры гэтым Еўрасаюз захоўвае здаровы сэнс і ўстрымліваецца ад эканамічнага ціску.

Гаспадарчыя санкцыі рэдка бываюць эфектыўнымі, а вынік іх звычайна супрацьлеглы да закладанага ініцыятырамі. Досыць часта эканамічныя санкцыі ў дачыненні да аўтарытарных рэжымаў не прыводзяць да іх упадку, але толькі іх узмацняюць, пазбаўляюць маральных падставаў прадстаўнікоў апазіцыі і ізалююць краіны. Сёння масавыя эканамічныя санкцыі паскорылі б эканамічную інкарпарацыю Беларусі ў Расію.




*Найлепшым адказам еўрапейскага боку, магла б стаць адмена платы за візы для простых беларусаў*

У той самы дзень, як Лукашэнка пастанавіў выслаць польскага і еўрапейскага амбасадараў, ён прапанаваў стварэнне супольнай беларуска-расійскай кампаніі па вытворчасці ўгнаенняў. Фактычна, Лукашэнка гатовы да гульні, на кану якой будзе беларуская незалежнасць.

Не варта забывацца, што Беларусь лёгка можа абысці, напрыклад, нафтавае эмбарга, зарэгістраваўшы некалькі фірмаў у Расеі. Гэта робіцца літаральна за дзень. Ці ў такім разе нехта будзе патрабаваць ад Еўрасаюза эканамічных санкцыяў супраць Расіі? Цяжка прадказаць дзеянні беларускіх уладаў у выпадку ўвядзення эканамічных санкцыяў.

Ёсць вялікая верагоднасць, што Лукашэнка пойдзе на моцнае супрацьстаянне з еўрапейскімі краінамі. Але што адназначна: першым адказам будзе пагром праеўрапейскіх асяродкаў унутры Беларусі. Такім чынам, эканамічныя санкцыі могуць прывесці да непрадказальных наступстваў.

Не варта забываць, што Беларусь — дзяржава з добра наладжаным апаратам прымусу і дзяржпрапагандаў, здольнай скіраваць хвалю нянавісці ў бок заходніх краінаў і беларускай апазіцыі.

Найлепшым, непрапарцыйным адказам еўрапейскага боку, які мусіць быць прыняты ў тэрміновым рэжыму, магла б стаць адмена платы за візы для беларусаў, што будзе ясным сігналам падтрымкі для беларускага грамадства і пазбавіць глебу для дзяржаўнай прапаганды. Адчыненне дзвярэй для беларускага грамадства знойдзе водгук у беларускага народа і ўзмацніць праеўрапейскія настроі. Гэта пакуль самая відавочная магчымасць перамагчы ў беларуска-еўрапейскай дыпламатычнай вайне.

# Выдаленне за грубую гульню

**Еўрапейская народная партыя заклікала спартыўных чыноўнікаў ЕС перанесці чэмпіянат свету 2014 года з Беларусі альбо байкатаваць яго.**

У рэзалюцыі, прынятай Палітычнай асамблеяй ЕНП, гаворыцца, што рэжым Лукашэнкі пазбавіў беларусаў асноўных правоў чалавека, у краіне няма дэмакратыі і вяршэнства закону, а таксама фальсіфікуюцца вынікі выбараў.

ЕНП выступае за тое, каб на наступным з’ездзе Міжнароднай федэрацыі хакею, які адбудзецца ў траўні ў Хельсінкі, было прынятае рашэнне аб пераносе чэмпіянату свету-2014 у іншае месца да таго часу, пакуль у Беларусі не адбудзецца зменаў у бок дэмакратызацыі. У выпадку, калі такое рашэнне не будзе прынятае, Еўрапейская народная партыя заклікае ўсе федэрацыі хакею краінаў Еўрасаюза і іншых дэмакратычных дзяржаваў байкатаваць гэтыя спаборніцтвы.

Еўрапейская народная партыя мае самую вялікую фракцыю ў Еўрапейскім парламенце. Яна аб’ядноўвае правацэнтрысцкія партыі Еўропы. Рух “За Свабоду” супрацоўнічае з ЕНП. Лідар Руху Аляксандр Мілінкевіч рэгулярна бярэ ўдзел у самітах Еўрапейскай народнай партыі, на якія з’язджаюцца ў тым ліку кіраўнікі многіх краінаў, уваходзячых і не ўваходзячых у ЕС, альбо лідары апазіцый.

# “Чарка і шкварка”– частка этнацыду

**У крызісным 2011 годзе беларусы купілі на 18% гарэлкі болей, чымсьці годам раней. Алкагалізм – чарговая тэма “Народнай праграмы” (Prahrama.by).**

Старажытны гісторык Герадот у сваёй “Гісторыі” апісвае народ скіфаў, які паходзіць ад трох сыноў самога Геракла. Скіфы не займаліся нічым, акрамя вытворчасці вельмі добрай зброі і развядзення вельмі добрых коней. На гэтых конях і з гэтай зброяй скіфы рабілі набегі на далёкіх і блізкіх суседзяў, руйнуючы ўсё на сваім шляху. Ад скіфаў пакутвалі Грэцыя, Персія і іншыя тагачасныя краіны. Перамагчы іх не мог ніхто. Нават вялікі Александр Македонскі ваяваў са скіфамі, ды не даў рады.

Але праз некаторы час скіфы перасталі існаваць і палітычна, і этнічна. Як гэта адбылося? Падчас набегаў на Грэцыю скіфы навучыліся ад грэкаў піць віно. Але грэкі віно разводзілі вадой 1 да 10, скіфы ж пілі віно неразведзеным. Акрамя таго, у Грэцыі пад страхам смерці было забаронена ўжываць віно жанчынам, а скіфскія жанчыны пілі віно свабодна. Імперыя скіфаў пачала слабець, і прыкладна праз 200 год скіфы поўнасцю зніклі.

На думку прафесара Жданава, этнас знікае, калі співаюцца тры пакаленні. Адно пакаленне беларусаў ужо амаль спілося, пачынае співацца другое пакаленне.



*“Такім чынам алкаголь пагражае існаванню нацыі больш рэальна, чым русіфікацыя ці эканамічная экспансія суседзяў. Акрамя таго, спойванне карэннага насельніцтва можа быць часткай стратэгіі экспансіі. Як, напрыклад, “вогненная вада” дапамагла знікнуць плямёнам амерыканскіх індзейцаў”*, – даводзіць каардынатар шэрагу грамадскіх антыалкагольных праграмаў **Леанід Скарабагаты**.

Наўрад ці “крывавы рэжым” вядзе палітыку спойвання беларусаў па сваёй ініцыятыве, хутчэй за ўсё заказчык іншы, кажа эксперт “Народнай праграмы: *“Хто заказчык, мы не ведаем. Гэта могуць быць і рускія алігархічныя групоўкі, якія вядуць такую самую палітыку супраць рускай нацыі. Могуць быць і кітайцы, якія апошнім часам актыўна асвойваюць нашу тэрыторыю. Могуць быць і іншыя сілы “сусветнай закулісы”, зацікаўленыя мець Беларусь без беларусаў. У любым выпадку пагроза больш чым рэальная”*.

Леанід Скарабагаты кажа, што трэба у тэрміновым парадку прыняць шэраг мер, каб спыніць выміранне беларусаў ад зялёнага змея. І прымаць меры трэба зараз, не чакаць прыходу дэмакратычных сілаў да ўлады: *“Ёсць тое, што прама зараз можа зрабіць кожны, хто лічыць сябе беларусам. Гэта – байкот алкагольнай мафіі! Ніводнага рубля ў іх кішэню, ніводнай кроплі атруты сабе і сваім блізкім. Толькі так мы уратуем Беларусь”.*



Статыстыку, звязаную з алкаголем, хрысціянскі палітык **Аляксей Шэін** называе жахлівай.

60% ад агульнай колькасці суіцыдаў здзяйсняюцца ў п’яным стане (Беларусь, паводле розных міжнародных рэйтынгаў займае 1-3 месцы ў свеце па колькасці самагубстваў на 1000 чалавек). Наша краіна займае 2-е месца ў свеце па колькасці выпітага чыстага алкаголю на душу насельніцтва. Алкагалізм – прычына кожнага другога разводу, а якой колькасці забойстваў ды хваробаў!

Спойваннем нацыі тлумачыцца ў тым ліку тое, што пачынаючы з 1994 года ў Беларусі адбываецца пастаянная дэпапуляцыя, а больш простымі словамі – выміранне насельніцтва, кажа эксперт “Народнай праграмы”. Павод-

## Толькі факты:

“З 2000 па 2010 год колькасць пацыентаў з упершыню ўстаноўленым дыягназам алкагалізм або алкагольны псіхоз вырасла ў Беларусі на 51%. У 2000 годзе сярод асоб, якія стаяць на ўліку ва ўстановах аховы здароўя, жанчын было 13%, у 2010 годзе - беларускам ставіўся практычна кожны пяты дыягназ алкагалізму або алкапсіхозу”.

“Газета “Наша ніва” параўнала цэны на мяса і гарэлку ў савецкі час і ў нашы дні. Тады кілаграм свініны каштаваў прыкладна столькі ж, колькі каштавала бутэлька “беленькай”. Сёння ж на кілаграм свініны можна купіць дзве бутэлькі гарэлкі, а на кілаграм ялавічыны - 2 па 0,5 ды плюс яшчэ хлеб на закуску. Гэта значыць, гарэлка стала больш даступнай”.

“Па дадзеных сацыялагічнага даследавання Мінскага НДІ сацыяльна-эканамічных праблем, 56,5% школьнікаў ужываюць шампанскае, 48,3% - сухія і паўсухія віны, 46,9% - піва. 15,4% дзяцей упершыню паспрабавалі алкаголь ва ўзросце да 8 гадоў. Ніколі не спрабавалі спіртных напояў толькі 7,8% рэспандэнтаў”.

# "Чарка і шкварка"... (працяг)

ле звестак на 2010 год, беларусаў налічвалася 9 млн. 467,7 тысячы. За 16 год нас стала менш на 850 000 чалавек. Гэта тое самае, каб цалкам вымерлі восем такіх гарадоў, як Салігорск альбо Маладзечна.

У Топ-20 самых буйных прадпрыемстваў-падаткаплатнікаў – некалькі алказаводаў. У 2005 годзе на душу насельніцтва прыпадала 9,3 літра абсалютнага алкаголю, у 2011-м – 13,3. Паводле разлікаў Сусветнай арганізацыі здароўя, 8 літраў – мяжа, пасля якой пачынаецца генетычнае пашкоджанне нацыі.

*"Людзі співаюцца і губляюць тое, што яны маглі б мець у сваім жыцці. П'яніца-муж ці бацька не можа быць паўнацэнным мужам ці бацькам, алкаголік-працаўнік не можа стаць паўнацэнным працаўніком і г.д. Калі гэтая праблема наўпрост тычыцца мільёнаў людзей у нашай краіне, гэта значыць, што і краіна не можа развівацца паўнавартасна, а народ не можа ў паўнаце выконваць сваю нацыянальную місію"*, – адзначае Аляксей Шэін.




**Вось такія калажы на аснове савецкіх антыалкагольных плакатаў можна знайсці ў беларускім інтэрнэце**

На ягоную думку, усе гэтыя праблемы не выкараніць толькі сацыяльнай рэкламай: *"Іх не перамагчы толькі прыняццем жорсткіх законаў ці толькі спробай "павысіць культуру піцця". Гэта магло б быць хіба дапаможным інструментам у выпраўленні сітуацыі. Галоўнае, што можа дапамагчы беларусам, – перамены ў сэрцах і свядомасці людзей: каб жыць з годнасцю, шануючы сябе і любячы іншых. А гэта ўжо сфера трымання хрысціянскіх каштоўнасцяў".*



Кожны чатырнаццаты рубель ідзе ў бюджэт ад гарэлкі, піва, "чарнілаў". Але страты ад алкагалізму пераўзыходзяць прыбыткі да продажу алкаголю, кажа эканаміст **Міхал Залескі**.

Па яго словах, у выніку вырашэння алкагольнаці праблемы павялічылася б працягласць жыцця мужчын, і скарацілася б колькасць дзён на бюлетэні па хваробе. Сёння кожны чацверты ў сельскай гаспадарцы – хранічны алкаголік, кожны пяты – у прамысловасці.

*"Улады ж больш крүюцца палітычным выйгрышам. Тыя, хто п'е, нічым не цікавяцца. Налівай элекатарату – і яму будзе ўсё абыякава. Да этнацыду далучаецца і палітыка спойвання. Якія захады прадпрымаць у першую чаргу? У прынцыпе, ёсць еўрапейскія нацыі, якія п'юць болей за нас нават. Гаворка пра праблему культуры ўжывання алкагольных напояў. Другі захад – ліквідацыя алкарэкламы.Трэці – прапаганда здаровага ладу жыцця: не лядовы палацы трэба ўзводзіць, а арганізоўваць шырокі фізкультурны рух.*

*У нас жа пакуль культывуецца, прычым на самым версе, прымітыўная ідэалогія "чаркі і шкваркі"*, – даводзіць эксперт "Народнай праграмы".

## Крытэрыі выстаўлення дыягназу "алкагольная залежнасць":

1. Няздольнасць чалавека кантраляваць прыём алкаголю. "П'е без меры", не можа спыніцца.

2. Чалавек адчувае пастаяннае жаданне ўжываць алкаголь. З-за гэтага жадання чалавек забывае пра сваю сям'ю, пра закон і нормы сацыяльных паводзінаў.

3. Высокая талерантнасць да алкаголю. Калі чалавек выхваляецца тым, што ён "можа выпіць літр гарэлкі і не ап'янець" – гэта вельмі трывожны сіндром. Хоць звычайна гэта з'яўляецца прадметам гонару алкаголіка.

4. Абстынентны сіндром, які ў народзе называюць "выхад". Вельмі хочацца пахмяліцца з раніцы, і, калі гэта не атрымліваецца, з нецярпеннем чакае канца працоўнага дня, каб выпіць.

5. Наяўнасць хвароб і/ці сацыяльных праблем, звязаных з ужываннем алкаголю, але чалавек усё роўна не можа "спыніцца".

6. Калі алкаголь займае галоўную ролю ў жыцці. Гэта значыць, вакол алкаголю ў чалавека круціцца вольны час і асабістае жыццё. Іншыя інтарэсы, не звязаныя з алкаголем, сыходзяць на другі план.

# Прырост зарплаты – 3 тысячы

Белстат паведаміў, што ў студзені сярэдняя заработная плата склала 2 880 000 рублёў (350 долараў). У параўнанні са снежнем мінулага года яна вырасла аж на 0,1%, або на 3 тысячы рублёў. Прычым рэальная заработная плата, калі ўлічваць рост коштаў на тавары і паслугі, наадварот, паменшылася на 1,8%.

Калі ўзяць рэгіянальны разрэз, то самая высокая сярэдняя зарплата ў Мінску – 3 654 000, а самая нізкая ў Брэсцкай вобласці – 2 430 000.

Больш за ўсё ў Беларусі атрымліваюць тыя, хто заняты дзейнасцю, звязанай з вылічальнай тэхнікай, – 9 066 000 тысяч рублёў, у хімічнай вытворчасці – 7 683 000; ў вытворчасці коксу, нафтапрадуктаў і ядзерных матэрыялаў – 6 349 000. Сферы-аўтсайдэры па памеры сярэдняй зарплаты: сельская гаспадарка, паляванне і прадастаўленне паслуг у гэтых галінах – 1 847 000 рублёў; дзейнасць воднага транспарту – 1 866 000; рамонт бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання – 1 623 000.

# Вышыня беларускага рубля




Крызіс і ў банкаў. Праспект Пушкіна ў Мінску: каб узяць грошы ў банкамаце, трэба ўзняцца на драўляны паддон...

АНДРЭЙ ДАВЫДЧЫК

## 8 тысяч – псіхалагічная мяжа

Курс беларускага рубля то набліжаецца да 8 тысяч за долар, то зноў аддаляецца ад гэтай псіхалагічнай мяжы.

Нацыянальны банк будзе падтрымліваць курс долара вышэй адзнакі 8 тысяч, лічыць аналітык Forex ў Мінску Валеры Палхоўскі. У інтэрв'ю каналу "Беларусь-1" эксперт сказаў, што ўмацаванне рубля азначае падаражэнне беларускага экспарту, ён губляе канкурэнтныя перавагі на знешніх рынках, таму Нацбанк будзе выходзіць на біржу, каб не дасць курсу долара апусціцца ніжэй за 8 тысяч.

Пажывем – спраўдзім прагноз.

РОЗНАЕ

# У Еўрасаюз цягнікам за 2,5 гадзіны

**Цягнік з Мінска ў Вільню ў хуткім часе давязе вас ўсяго толькі за 2,5 гадзіны.**

Гэта адбудзецца ў 2013 годзе.

Такая дамоўленасць дасягнута на перамовах паміж Беларускай і Літоўскай чыгункамі, паведамілі ў БЧ.

Нагадаем, у гэтым годзе час у шляху са сталіцы Беларусі ў сталіцу Літвы скароціцца з 4 да 3 гадзін.

# "Я кахаю табе Мінск!"

**Мінскія ўлады арганізавалі конкурс плакатаў сацыяльнай рэкламы. Прагаласаваць за лепшыя было прапанавана на сайце Мінгарвыканкаму. Прычым у конкурсе бралі працы, якія сталі прадметам сцёбу інтэрнэт-публікі. Напрыклад, такі плакат з банальнай вывай і подпісам з трыма памылкамі.**




Газета выдаецца Рухам "За Свабоду". Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 13.03.2012 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@pyx.by